Цана нумэру 50 кап.

# БЕЛАРУСКАЯ ДУМКА

ШТОДЗЕННАЯ ГАЗЭТА.

Рэдакцыя і Адміністрацыя — Востра-Брамская, № 9 — адчынена што дня, апрача сьвята, 10—3 гадз.

АБВЕСТКІ: 1 радок перад тэкстам 4 рублі. 1 радок за тэкстам 2 рублі. З безработных за усю абвестку 2 рублі.

Год I. Вільня, Нядзеля, 6 ліпня 1919 г. № 38.

## БЕЛАРУСКІ НАЦЫЯНАЛЬНЫ КАМІТЭТ

**гэтым абвяшчае,**

што у канцэлярыі Камітэта *(Вострамская № 9)*,

робіцца рэгістрацыя безработных беларусау, для якіх Камітэт склікае сход 8 ліпня (юля) для арганізацыі работніцкіх арцеляу, якім на днях можа быць дадзена праца.

*КАМІТЭТ.*

# ПОЛЬШЧА і БЕЛАРУСЬ.

У пятніцу, у № 60 «Нашага Краю» мы прачыталі стацьцю, аўтар каторай з першых радкоў прыйходзіць да вываду, што «беларуская справа ня йдзе ані трохі наперад».

Усю віну у гэтым, як можна бачыць з далейшых пісаньняў «Нашага Краю», павінны прыняць на сябе беларусы, каторыя не разумеюць таго, што «пры цяперешніх варунках, калі *палякі занімаюць найбольш польскую часьць гістарычнае Літвы*, вялізазная большасьць народу беларускага не магла-б наагул выказацца аб сваёй будучай долі, калі-б Польшча не хацела, ці не магла-б пасунуцца далей напярод».

Вывад, які напрашваецца з гэтых слоў, і ня толькі гэтых, а і іншых думак аўтора стацьці, вельмі ясны: *палякі нясуць беларусам магчымасьць тварэньня асноў беларускае дзяржаўнасьці.*

Не зьварочаваючы ўвагі на лемэнтацыі аўтара стацьці аб тым, што справы беларускія выплылі на парадак дня толькі з прыходам палякоў, што справы беларускія стаяць на паміжнародным рынку кепска, што небясьпечнасьць ад Колчака ўсё расьце далей і будзе ўсё болей расьці, мы проста пяройдзем да аснаўнога пункту пытаньня—*што прашкаджае беларусам і палякам супольна весьці творскую працу па абдудаваньню незалежнае Беларускае дзяржавы, калі к гэтаму*, апрача *розных іншых прычын, заве палякоў* і *«добра зразумелы інтэрас польскі»*, а беларусаў—іх моцнае жаданьне быць незалежнымі *ня толькі ад Расеі*, але і ад сіх, у тэй лічбе і ад Польшчы.

Нам здаецца, справа тут ў тым, што польская палітыка ў адносінах да Беларусі не зьяўляецца цьвёрдай і яснай.

Беларусы ад самага пачатку, калі ў Вільню прыйшлі польскія войскі, цьвёрда і ясна заявілі начальніку польскага гасударства і іншым прадстаўнікам польскае ўлады, што яны жадаюць быць незалежнымі.

Зьезд 9—11 чэрвеня сказаў тое самае.

Здавалася-б, што голас беларусаў выявіўся досіць ясна і цьвёрда, ня гледзячы на тое, што аўтар стацьці ў «Нашым Крае» лічыць справу беларускую явай недаўнае мінуўшчыны.

Калі-б Польшча шчыра стала на дорогу адбудовы незалежнае Беларусі, то і супольная праца ў гэтай справе пайшла-б гладчэй і хутчэй. Але-ж мы павінны сказаць, што мы ня бачым ў палякоў ніякага гасударственага пляну ў пытаньні аб Беларусі. Тое, што мы чуем і што кажуць нам розныя прадстаўнікі розных палітычных кірункаў Польшчы, вельмі неазначана ў пытаньні аб беларускіх справах. Усім ведама, што польская эндэцыя ніякае незалежнае Беларусі ня хоча і знаць. Ей хочацца прылучэньня Беларусі да Польшчы, што эндэцыя і было запрапанавала ужо, калі ў Сойм было ўнесена прапанаваньне аб прылучэньні да Польшчы «ўсходніх зямель».

Праўда, пасьля таго, як Антанта пакiвала Сойму за яго анэксыяністскую палітыку, прапанаваньне гэнае было зьнята.

Беларусь і Літва выратаваліся на гэты раз ад біды.

Сойм змушаны быў адмовіцца ад сваёй палітыкі анэксый, але і толькі.....

Польскі Сойм і польскі ўрад да апошняга часу ўсё-ж не сказалі яшчэ, чаго яны хочуць адносінах да Беларусі, а таксама Літвы Пытаньне гэтае вісіць у паветры і ня ведама чым скончыцца не па нашай віне.

«Наш край», каторы хацеў-бы больш цесных адносін паміж палякамі і беларусамі і таксама рэальнае працы для адбудовы незалежнай Беларусі, забываецца, што польская ўлада афіцыяльна ні словам не абмовілася ў гэтым пытаньні ў тым значэньні, што яна стаіць на грунце стварэньня незалежнае Беларусі.

Ня гледзячы на некаторы паварот польскай палітыкі, мы яшчэ ня пэўны, што паны Дмоўскія не скарыстаюць з нашай супольнай рэальнай працы для сваіх мэт, для таго, каб сказаць, што Беларусь ужо працуе супольна з Польшчай, не гледзячы на тое, што Польшча незалежнасьці Беларусі ня прызнала; значыцца ніякай незалежнасьці Беларусі ня трэба. І Антанта можа запраўды паверыць Дмоўскім і падумаць, што найлепшым выхадам з палажэньня па пытаньню аб Беларусі, зьяўляецца — падзел Беларусі на заходнюю і ўсходнюю, бо ў заходняй беларусы працуюць ужо супольна з палякамі, а ў усходняй, дзе расейскія уплывы больш значны, як польскія, беларусы будуць працаваць супольна з расейцамі.

Трэба, каб Польшча афіцыяльна выказала свой пагляд на пытаньне аб стварэньні незалежнае Беларусі. Гэта—ёсьць ужо прызнаньне незалежнасьці Беларусі, бо выказаньне пагляду ёсьць толькі палітычная праграма, каторай мусіць што *няма у Польшчы* ў адносінах да Беларусі. Ад таго і выходзіць, што «беларуская справа ня йдзе ані трохі напэрад».

Што датычыць стварэньня беларускага войска, то «Беларуская думка» лічыць гэта пытаньне адным з важнейшых пытаньняў мамэнту і верыць, што Польшча паможа беларусам у гэтым пытаньні, бо «добры зразумелы інтэрас польскі» вымагае стварэньня войска беларускага.

**Гарро.**

**Пастанова Цэнтральнае Беларускае Рады Віл. і Гор. ў справе адносін да «Беларуск. Вайскав. Арганізацыі».**

На пасяджэньні сваім 3 ліпня сёл. г. Ц. Б. Р. В. і Г. вынесла гэткую рэзалюцыю:

«Цэнтральная Рада Віленшчыны і Гарадзеншчыны не знайшла магчымам зацьвердзіць праект умовы паміж Радай і Бел. Вайск. Арганізац.».

Экземпляр праэкту умовы, падпісаны асабіста віцэ-старшынёй Рады гр. М. Кахановічам, Рада прызнае, як асабісты погляд гр. Кахановіча і ня прызнае важным падпісу, як ад імяні Рады.

**Архірэйскі дом.**

Эпархіяльнае ўпраўленьне руплівa дамагаецца перад польскаю ўладаю, каб яму аддалі назад архірэйскі дом (па Вялікай вуліцы), што куплены праваслаўным духавенствам яшчэ ў чатырдзесятых гадох мінулага веку ад тагочаснага губэрскага маршалка Мястоўскага, аб чым ёсьць і аўтэнтычныя дакумэнты.

Як мы чулі, польская ўлада ў бліжэйшыя часы аддасьць назад архірэйскі дом.

**Прыехаў п. В Ластоўскі.**

Надоячы ў Вільню прыехаў пісьменьнік і палітычны дзеяч пан Вацлаў Ластоўскі; ён мяркуе прабыць у нас колькі дзён, пасьля чаго ізноў паедзе ў Коўну, дзе ўвесь апошні час жыве.

Як даведаўся наш супрацоўнік, пан Ластоўскі цяпер перакладае на беларускую мову і апрацоўвае чараду легендаў стара-эгіпецкіх, ассіро-вавілонскіх і індускіх. Болей дзясятка легендаў ужо прыхуртованы да друку.

Як ведама, п. В. Ластоўскі старшыня Беларускага Прадстаўніцтва ў Літоўскай Дзяржаўнай Радзе.

Прыбыцьце пана Ластоўскага ў Вільню не знаходзіцца ў зьвязку з абыякімі палітычнымі справамі і мае чыста прыватны характар.

**Праэкты Літоускага Ураду.**

Часовы літоўскі урад, як піша ковенская «Lietuwa», апрацоўвае правілы для людзей, якія працуюць на шкоду Літоўскага Ураду, у дзяржаўных установах чужых дзяржаў. Гэтыя людзі, якія працуюць у установах або ў арміі, знаходзячыхся з літоўскім урадам у стане вайны, будуць пакараны турмой і канфіскацыяй усёй маемасьці.

**Беларускі гістарычны, археолёгічны і этнографічны музэй.**

На пасяджэньні 4-га чэрвеня Цэнтр. Беларуская Рада Віленшчыны і Гарадзеншчыны пастанавіла арганізаваць у Вільні Беларускі гістарычны, археолёгічны і этнографічны музэй. У музэй перш-наперш увойдзе лёса (маса) сабранага беларускімі вучонымі і дзеячамі матэр'ялу з вышэйназваных галін беларускай навукі.

## З УСІХ СТАРОН.

**Плебісцыт у Верхняй Сілезіі.**

Не пазьней за двох тыдняў пасьля таго, як мірны трактат пачне мець сілу, войскі і ўлады, займаючыя тэрыторыю, на каторай будзе зроблен плебісцыт, павінны пакінуць яе. Распускаюцца усе рады, не павінны больш рабіць ніякія вайсковыя і блізкія да іх па духу арганізацыі.

Да камісіі, складзенай з сябраў, назначаных Злучанымі Штатамі, Францыяй, Англіяй і Італіяй, пераходзе уся ўлада, якая раней належала да нямецкай адміністрацыі, за выняткам законадаўства і падаткоў.

Камісія гэтая зараз-жа павінна назначыць новыя мясцовыя ўлады. Потым камісія павінна зрабіць усё, што трэба, каб адбыўся справядлівы плебісцыт. Час плебісцыту будзе абмяркован главнейшымі з хаўрусных дзяржаў у працягу часу ад 6 да 18 мэсяцоў пасьля прыбыцьця камісіі на месца.

Тое, што дасьць плебісцыт, і праэкт наладжаньня новай граніцы будуць поданы да ведама глаўнейшым з хаўрусных дзяржаў.

Пад увагу будуць узяты ня толькі рэзультаты плебісцыту, але і географічны і гаспадарчы стан краю.

Кошты акупацыйных войскаў і камісіі будуць узяты на месцу плебісцыта.

## Распісаньне паяздоў.

Цяпер на віленскім дарожным вузле ходзяць паязды водле ніжэйсьледуючага распісаньня:

*У кірунку Вільня—Ліда.*

№ 507 выходзіць з Вільні а 6 г. нараніцы.
№ 521 „ „ „ „ 4 „ папаўдні.

*У кірунку Ліда—Вільня.*

№ 522 прыход. да Вільні а 10 г. 50 м. нараніцы.
№ 508 „ „ „ 4 „ — папаўдні.

*У кірунку Вільня—Смаргонь.*

№ 754 прыходзіць да Вільні а 12 г. 8 м. у начы.

*У кірунку Вільня—Н.-Сьвенцяны.*

№ 951 выходзіць з Вільні а 2 г. папаўдні.
№ 952 прыходзе ў Вільню а 6 „ у вечары.

*У кірунку Вільня—Вака.*

№ 601 выходзіць з Вільні а 7 г. нараніцы.
№ 605 „ „ „ „ 2 „ папаўдні.
№ 607 „ „ „ „ 7 „ 30 м. увеч.

*У кірунку Вака—Вільня.*

№ 604 прыходзе у Вільню а 11 г. — нараніцы.
№ 606 „ „ „ „ 3 „ 10 м. папаўд.
№ 608 „ „ „ „ 3 „ 40 „ увечар.

Ад 17 чэрвеня ходзіць адзін поезд паміж Вільняй і Горадняй цераз Ваку, дзе трэба перасядаць з прычыны папсаваньня мосту.

Поезд гэты адходзіць з Вільны а 7 г. нараніцы.

*Хто прыезджае у Вільню і мае хоць калiуца часу пахвaліцца сваімі мястовымі, месьцячковымі ці вясковымі навінамі; хто хоча сам даведацца аб патрэбных яму і грамадзе беларускіх справах і навінах ці дастаць беларускую літэратуру,—няхай ён будзе ласкаў не абмінуць сваю беларускую рэдакцыю.*



Рэдактар і выдавец Э. Падгайскі. Друкарня «Віленскага Выдавецтва», Мала-Стэфанаўская, 23.